# Сусьціgі двух блёкаў

Гісторыя з амэрыканскім разьведвальным самалётам У—2, выклікала ў заходняй прэсе шмат камэнтараў. Зьяўляюцца таксама і артыкулы, якія падаюць шырэйшыя інфармацыі аб разьведвальнай дзейнасьці Задзіночаных Штатаў у Савецкім Саюзе пры дапамозе прыгадавых самалётаў У—2. Прыкладам, нямецкі тыднёвік „Der Spiegel“ падае, што фатаграфічная апаратура, якой былі абсталяваныя амэрыканскія разьведвальныя самалёты, настолькі чулая, што зь дзесяці кілямэтраў вышыні на фатаздымках можна дакладна распазнаць кажную галоўку цьвіка; зь пятнаццаці кілямэтраў вышыні на фатаздымках можна прачытаць назоў газэты; з дваццаці кілямэтраў — можна разрозьніць кажны сьлед у сьнезе; з 25 кілямэтраў — можна адрозьніць чалавека на самаказе ад пешахода.

Пры пералёце над дадзенай тэрыторыяй, самалёт тыпу У—2 фатаграфуе за чатыры гадзіны паласу 780 кілямэтраў шырыні і 4300 кілямэтраў даўжыні. Калі верыць маскоўскаму радыё, якое нядаўна падало, што Задзіночаныя Штаты на працягу апошніх гадоў зрабілі 113 такіх палётаў праз тэрыторыю Савецкага Саюзу, дык можна сабе ўявіць, што ўся тэрыторыя Савецкага Саюзу сфатаграфаваная амэрыканскімі разьведвальнымі самалётамі.

Дакладнасьць гэтых фатаграфіяў неаспрэчная. У сваім выступленьні праз радыё й тэлевізію прэзыдэнт ЗША Айзэгаўэр паказаў у тэлевізіі, як прыклад, здымак амэрыканскай паветрана-морскай базы Сан Д'его, зроблены самалётам У—2 з вышыні больш як 20 тысяч мэтраў. На гэтым здымку голым вокам можна разрозьніць ня толькі авіяматку ў порце Сан Д'его, ня толькі лётнішча з пасадачнымі палосамі, але навет аўтамабільныя паркі з паасобнымі аўтамабілямі, дзе заўважныя навет лініі, якія разьмяжоўваюць асобныя шэрагі аўтамабіляў.

Як ведама, акцыя разьведвальных палётаў У—2 пачалася пасьля таго, як Хрушчоў адкінуў прапанову «адкрытага неба» Айзэнгаўэра, — прапанову якая прадбачвала паветраную кантролю на базе ўзаемнасьці. Цяпер Хрушчоў абвінавачвае Задзіночаныя Штаты ў шпіянажы, і падае інцыдэнт із зьбітым амэрыканскім самалётам У—2 як прычыну зрыву нарады ў Парыжы. Амэрыканцы адказваюць, што Савецкі Саюз можа пахваліцца — хоць і ў іншай форме — ня меншай сеткай шпіянажу. Да гэтага Амэрыканцы дадаюць, што іхная разьведвальная дзейнасьць пры дапамозе акцыі самалётаў У—2 служыла толькі абаронным мэтам. У выпадку агрэсіі супраць Задзіночаных Штатаў, — кажуць яны — у выніку разьведвальнай дзейнасьці самалётаў У—2 Амэрыка ня будзе мець патрэбы весьці татальную атамную вайну «ўсьляпую», — ня будзе мець патрэбы бамбардаваць без разбору важнейшыя цэнтры СССР. У адваротным выпадку пацярпелі-б сотні тысячаў, а то й мільёны цывільнага насельніцтва. На падставе-ж атрыманых дадзеных з фатаздымак,Задзіночаным Штатам ведамыя ўсе важнейшыя цэнтры ваеннага характару, якія, у выпадку контрудару, былі-б зьнішчаныя бяз значных шкодаў для цывільнага насельніцтва.

Няма патрэбы й казаць, што магчымасьць такога розыйгрышу нясе небясьпеку для цэлага сьвету. Пацярпела-б пры гэтым нямала і Беларусь, якая, у сілу свайго геапалітычнага палажэньня зьяўлялася дасюль — і, у плянах цяперашніх акупантаў — разглядаецца і далей, як поле розыйгрышу ў эвэнтуальным канфлікце. Паводля паінфармаваных колаў заходняга сьвету, уладжаньні запуску ракетаў разьмешчаныя якраз на «ўскраінах» савецкай імпэрыі — у Літувіскай, Беларускай і Украінскай ССР. Хрушчоў — ці пад нейкім ціскам, ці з свае волі — стаў на небясьпечны шлях. Зрыў ім Парыскай нарады адкідае цэлы сьвет на пазыцыі ня толькі халоднай вайны, але й ставіць абодва блёкі на мяжы «гарачай». У сувязі з гэтым цэлы сьвет ставіць пытаньне пра суадносіны сілаў дэмакратычнага й камуністычнага блёкаў — суадносіны, якія могуць пастанавіць аб тым, ці адважыцца камуністычны блёк на ваенную агрэсію, маючы абгрунтаваныя надзеі яе выйграць. Прэса заходняга сьвету прысьвячае ня мала месца гэтаму пытаньню. Вельмі цікавы артыкул зьявіўся ў заходнянямецкай газэце «Зюддойчэ Цайтунг», у якім аналізуюцца суадносіны сілаў абодвух блёкаў. Перакажам важнейшыя вытрымкі з гэтага артыкулу.

Ад некаторага часу нашу зямлю аблятае штучны спадарожнік зямлі — вялічынёй самаходу і цяжэйшы як трэйці савецкі «спутнік». Называюць яго «Магічным вокам», які можа выкрыць кажны запуск ракеты — незалежна ад таго, дзе ён праводзіцца — і паведаміць аб ім наземнай станцыі. Месца запуску можа быць вельмі добра замаскаванае — гэта не зьяўляецца перашкодай для «Мідасу»: струмень страшэннай гарачыні, які суправаджае запушчаную інтэркантынэнтальную ракету падчас першых пяцёх хвілін пасьля ейнага старту ня можа схавацца ад гэтага «інфрачырвонага» вока». Тое, што гэты амэрыканскі штучны спадарожнік «Мідас» заўважыць, ён перадае на працягу некалькіх сэкундаў наземным станцыям.

Перад тым, як Геафізычны год пачаў сусьветнае спаборніцтва ў галіне заваяваньня сусьветнай прасторы, Амэрыканцы былі за пэўныя свае перавагі. Яны ня бралі пад увагу перасьцярогаў, якія выказвала іхная разьведвальная служба. Тым большы быў шок, калі Саветы запусьцілі свой першы спадарожнік зямлі 4 кастрычніка 1957 году. Праціўнік, якога Амэрыканцы ня бралі паважна, іх выперадзіў. Усе спробы яго дагнаць у ейнай галіне выявіліся дарэмнымі. Амэрыканскі народ пачаў дамагацца «контрудару» — і цэлы заходні сьвет на гэты ўсклаў «контрудар» свае надзеі.

Мінула ня мала часу, пакуль Пэнтагон, прымушаны прэзыдэнтам Айзэнгаўэрам, распрацаваў новую тактыку ў гэтых сусьціgах у сусьветным маштабе. Бязумоўна, пастанова ў гэтым пытаньні не магла быць прынятая лёгка, таму што яна азначае адмову ад выпрабаваньняў паказнога характару зь вялікім прапагандовым эфэктам, аднак з малым навуковым вынікам. У гэтай галіне Амэрыканцы пакінулі саветам чыстае поле. За апошнія 18 месяцаў не рабілася паважнага націску на падарожжы ў кірунку плянэтаў, хоць публіцыстычная кампанія ў гэтай галіне ня спынялася.

Арганізацыйныя зьмены, якія адбыліся ў выніку каардынацыі дзейнасьці трох амэрыканскіх відаў зброі — наземных, паветраных і ваеннаморскіх сілаў — паказваюць на зусім новую тактыку. Амэрыканцы цяпер ня гоняцца за прапагандовым эфэктам, як Саветы. У супрацьвагу ім, уся іхная энэргія вылілася ў вельмі эфэктоўныя, але з прапагандовага гледзішча непрадуктыўныя праекты. Задзіночаныя Штаты пачалі разглядаць палёты ў міжплянэтную прастору, як **сяродак абароны свае краіны.** Дасюлешнія «спутнікі», «лунікі», «эксплёрэры», «дысковэры» і «піянэры» далі вельмі вартасныя навуковыя вынікі, але із стратэгічнага гледзішча яны зьяўляюцца мінімальнымі. Савецкія посьпехі ў гэтай галіне даказвалі іхныя дасягненьні ў справе ракетнай тэхнікі й кіраваньня на адлегласьць — але больш нічога.

Абставіны зьмяніліся, калі Амэрыканцам першага красавіка сёлета ўдалося запусьціць вымяральную прыладу «Тырос I» на арбіту вакол зямлі. У гэтым спадарожніку зьмяшчаецца фатаграфічная камэра, пры дапамозе якое фатаграфуюцца воблачныя палі ад 1280 да 160 кілямэтраў дыяматрам. Гэты спадарожнік перадае дадзеныя дзьвюм наземным станцыям на адпаведны сыгнал. Няведама, ці «Тырос I» фатаграфуе таксама іншыя краіны. Калі-б так і было, з прапагандовага гледзішча гэта ня мела-б такога прапагандовага эфэкту, як прыкладам, сфатаграфаваньне Саветамі другога боку месяца. Аднак із стратэгічнага й палітычнага гледзішча — гэта куды важнейшае.

З запускам «Мідасу» — першага спадарожніка зямлі, які служыць выключна мэтам абароны — палітыка «адкрытага неба» зрабіла вялікі крок наперад. «Зюддойчэ Цайтунг» піша: «Ня так важна, ці першы экспэрымэнт выявіўся цалкам ці толькі часткова ўдачным. Амэрыканцы плянуюць запусьціць цэлы шэраг такіх «магічных вачэй», якія, зь іншымі спадарожнікамі, дазволяць мець поўны вобраз аб прамысловых цэнтрах і рухах войска, і перадаваць іх наземнай цэнтралі. Такі ланцуг штучных спадарожнікаў мае на мэце ахоўваць Амэрыку ад нечаканага нападу. Да 1962-га году гэтая сыстэма мае быць цалкам праведзеная ў жыцьцё».

У канцы свайго артыкулу «Зюддойчэ Цайтунг» прыходзіць да высновы, што гэтае дасягненьне Амэрыканцаў у галіне папярэджаньня нечаканага нападу можа ў канчальным выніку прымусіць савецкіх кіраўнікоў прыняць прапанову Айзэнгаўэра аб «адкрытым небе».

**Ул. Н.**

# Пад знакам атакі супраць ЗША

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

віцкую небясьпеку й псыхалягічна раззбройваў грамадзтвы вольнага сьвету.

Такая атмасфэра, створаная першай канфэрэнцыяй на найвышэйшай узроўні ў Жэневе летам 1955 году, дала Савецкаму Саюзу магчымасьць пранікнуць на Сярэдні Ўсход і пакінуць Захад зусім няпрыгатаваным да вугорскіх падзеяў увосені 1956 году. Выкліканы восеньню мінулага году г. зв. «дух Кэмп Дэвід», абапёрты вылучна на слоўных запэўненьнях Хрушчова, меў стварыць для Савецкага Саюзу выгодную пазыцыю на Парыскай канфэрэнцыі й прынесьці яму спадзяваньня выйгрышы ў найбольш важным сяньня бэрлінскім пытаньні. На шчасьце, гэтак нясталася.

Парыскі скандал і запачаткаваны Хрушчовам новы курс, замест запалохаць і здэзарыентаваць Захад, адкрыў яму вочы на собскія памылкі й наглядна паказаў, чаго была вартая Хрушчоўская канцэпцыя суіснаваньня. Сканцэнтраваньне савецкіх атакаў на Задзіночаныя Штаты Амэрыкі, якія ў сваей ненавісьці, неапанаванай гістэрыі і элемэнтамі асабістае абразы пад адрысам амэрыканскага прэзыдэнта й ягонага заступніка Ніксана пераходзяць найкрытычнейшыя мамэнты холоднае вайны Сталінскага пэрыяду, ня толькі не змаглі ўвагнаць кліна між Амэрыкай і ейнымі саюзьнікамі, але, наадварот, увесь вольны сьвет, у вабліччы ўзмоцненай савецкай загрозы, яшчэ цясьней пачаў задзіночвацца вакол Амэрыкі, як наймагутнейшай цьвярдыні перад агрэсыўнымі пасяганьнямі Масквы.

У самой Амэрыцы парыская катастрофа выклікала карысную рэакцыю. Ня гледзячы на тое, што памылкі Айзэнгаўэра дэмакратычная партыя выкарыстоўвае ў сваей выбарнай кампаніі і навет некаторыя вядучыя рэспубліканскія палітыкі не ашчаджаюць словаў войстрае крытыкі пад адрысам палітыкі Айзэнгаўэра, тым ня меней уся амэрыканская апінія адназгодна й станоўча адкідае палітыку ўступак і дамагаецца больш цьвёрдай і станоўчай палітыкі ў дачыненьні да Савецкага Саюзу.

Падобныя настроі выразна зарысаваліся у Лёндане й Парыжы. Усе палітычныя фракцыі ў Ніжняй Палаце апрабавалі пазыцыю Макміляна ў Парыжы, а ў Партыі Працы наступіў раптоўны зварот у карысным для Захаду кірунку. Яшчэ нядаўна йснавала небясьпека што прафсаюзы накінуць Партыі Працы палітыку аднабокага раззбраеньня шляхам адмовы ад атамнага аружжа. У практыцы гэта вяло-б да выхаду Вялікабрытаніі з сыстэмы Атлянтычнага пакту. Перад такім сумным лёсам выратаваў Вялікабрытанію Хрушчоў. Толькі дзякуючы яму наступіла грунтоўная зьмена ў настроях лейбарыстых, што іхны лідэр Гайтскэль здабыў на зьезьдзе прафсаюзу гарадзкіх работнікаў поўны давер для сваей палітыкі вернасьці НАТО й захаваньня Вялікабрытаніяй разам зь ейнымі саюзьнікамі атамнага збраеньня.

Гэтак сама й прэзыдэнт Дэ Голь у сваей прамове 31-га траўня, абвінаваціўшы Хрушчова за зрыў Парыскай канфэрэнцыі, запэўніў, што Францыя астаецца вернай Атлянтычнаму саюзу й яшчэ больш узмоцніць сваю станоўчасьць у вабароннай акцыі вольнага сьвету.

Камуністычны пераварот у Чэхаславаччыне ў 1948 годзе, заініцыяваны й успамаганы Савецкім Саюзам, спрычыніўся да паўстаньня Атлянтычнага пакту. Гэтак сама цяпер гвалтоўныя савецкія атакі супраць Амэрыкі здэмаскавалі ўвесь хвальш каэгзыстэнцыйнай палітыкі Савецкага Саюзу й прывялі да ўзмацненьня адзінства й станоўчасьці вольнага сьвету ў вабліччы савецкае загрозы.

**Язэп Каранеўскі**

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

**Уладзімер Глыбінны**

# 24-ы гадзіны Боба Браўнэла

**(Заканчэньне)**

Апошнія словы сваёй споведзі Боб выказаў гэтак уздымна і голасна, што ў суседнім пакоі прачнуліся дзеці. Том і Джэні выбеглі ў гасьціную. Боб адразу прадбачліва схаваў рэвальвэр за сьпіну. Ён добра ведаў, што пры дзецях гаспадар не адважыцца на змаганьне. Заўважыўшы незнаёмага чалавека, малыя кінуліся да маці. Сузан заспакоіла іх, адрэкамэндаваўшы госьця, як добрага дзядзьку. Боб сказаў да Тома і Джэні колькі ласкавых словаў.

— О, якія мілыя дзеткі! — праказаў ён з шчырым захапленьнем. — Гэта-ж ноч, а вы ня сьпіцё. Вам-жа пара спаць! Ужо ўсе курачкі даўно паснулі. А заадно і ўсе малыя дзяўчаткі і хлопчыкі даўно ўжо салодкія сны бачаць. Трэба-ж і вам пешыцца начною казкай пра верабейку, што прыносіць залатыя зярняткі ўсім паслухмяным дзеткам!

Малыя стаялі ў непаразуменьні і пазяхаючы церлі свае разаспаныя вочкі. Джэні з-за братавай сьпінкі кідала недаверлівыя але цікаўныя позіркі на незнаёмага, а Том ужо разганяў сваю разаспанасьць і што-раз сьмялей пазіраў у прыветлівы твар Боба.

— Ну то бяжыце хутчэй у пасьцельку, пакуль яна яшчэ не прастыла, а заўтра я вам такую казку разкажу, што вы і пальчыкі абліжыце.

— А нам бабуся расказвае казкі пра ката ў ботах! — ня вытрымаў, каб не пахваліцца, малы Том.

— І пра жабку-квакушку — дадала асьмялеўшая Джэні!

— Ну то от і добра, я разкажу вам заўтра свае казкі, а вы мне раскажаце тыя бабулькіны казкі. От будзе весела і цікава. А цяпер — спаць! — загадным тонам праказаў Боб.

Вочы малых загарэліся нязвычайнай цікавасьцяй і разам з тым даверам і паслухмянасьцяй. Адразу пагадзіліся з Бобавай прапановай. Бязь ніякага далейшага супраціву яны ськіваваліся ў свой пакой і юркнулі пад коўдру. Сон запанаваў над імі гэтак раптоўна, як за колькі часінаў перад тым быў адыйшоў ад іх. Іхняя маці была здаволена з такога паверненьня дзіцячых справаў і з большым даверам глянула на цяперашняга гаспадара хаты.

Зморанымя пакутаю і бяссоньнем, паснулі нарэшце і спадары Уайты. Гэтак вакол іх стала і засьпела сьвітаньне. Нямавема, ці прыкархнуў Боб, адно раніца яго засьпела бадзёрым і павесялелым. Ён зусім не скардзіўся на нагу. Робэрту Уайту ён загадаў ісьці, як звычайна, на працу, каб ня было ніякіх падазрэньняў. Пры гэтым папярэдзіў, што калі той ня хоча мець няпрыемнасьцяў для сям'і, мусіць аб усім трымаць язык на замку. Удзень Робэрт колькі разоў званіў да хаты. Усё ішло сваёй чаргой. Дзеці гулялі ў суседнім пакою. Жонка — заложніца хаця і ня выпушчалася з хаты, але пачувала сябе нібыта ня блага. Напаіла гасьця зноў кавай, пачаставала бутэрбродамі. Гатавала полудзень. Госьць трымаў сябе карэктна, гаварыў толькі прыемныя словы, якія выдавалі ў ім прыроджанае далікацтва і выхаванасьць. Анічым ён нікога не пакрыўдзіў у адсутнасьць гаспадара. Робэрт-жа колькі разоў памыкаўся пайсьці заявіць у паліцыю, але кажны раз стрымваўся дзеля бясьпекі дзяцей і жонкі.

Пасьля працы Робэрт засьпеў сваю хату ў поўным парадку. Ня было, здавалася, падставаў злавацца на Боба, хаця-ж ён і ня спушчаў зброі з сваіх добразычліўцаў. Пасьля вячэрняе гарбаты Уайты паведамілі Боба, што ў гэты час яны звычайна зь дзецьмі наведваюць Томаву і Джэніну бабусю і калі на гэты раз не наведаюць, дык могуць наклікаць падазрэньне. Як на дзіва, Боб не патрабаваў доўга сябе ўгаворваць. Ён адразу згадзіўся з тым, што наведаць трэба неадкладна, каб нічым не зьмяняць нармальнага ходу жыцьця Уайтаў і не наклікаць бяды. Зноў схаваўшы зброю, ён ветліва ухмыляўся дзецям і нат выклікаў у іх жаданьне, каб і добры дзядзька ішоў зь імі разам да любімай бабусі есьці цукеркі.

— Дзядзька Боб будзе пільнаваць хату, — заявіла дзецям Сузан.

— Дык-жа мама мае ключы ад кватэры. Можна замкнуць і ўсё будзе добра, — праказаў старэйшы Том. — А ў бабусі дзядзя Боб будзе гладзіць кіску. А якая яна рахманая, каб вы толькі ведалі! — дадаў ён зьвяртаючыся да Боба. — От толькі надоечы пацарапала руку Джэні, а так яна добрая кіска! А як яна мячык ловіць, от каб вы пабачылі!

Ледзь удалося адгаварыць дзяцей ад наважанасьці ўзяць з сабою Боба да дарагое бабусі з катком. А калі выйшлі ўсе Уайты навуліцу, Боб доўга стаяў збоку вакна і пільна ўглядаўся ў кірунку, куды пайшлі гаспадары кватэры. Прыйшоўшы да думкі, што Уайты такі пайшлі туды куды гаварылі, ён упяршыню за гэтыя дваццаць чатыры гадзіны адчуў сябе моцна зморaным ад бесперапыннае напругі. Патрэба прылегчы міжвольна пацягнула яго да канапы. Ён выцягнуўся ўва ўсю сваю даўжыню. Ногі зьвесіліся далавах. Слодыч паслабленьня напругі і магчымасьці адпачынку перамяшаліся з слабым адчуваньнем глухога болю ў назе. Але гэта ўжо быў ні гэткі рэзкі боль, які ён адчуваў учора. Рана ныла, але ня гэтак нясьцерпна. Ён пачаў ужо забывацца на яе. Хіліла да сну. Нейкія нявыразныя ўявы пачалі апаноўваць думкі. Ужо пачаў лавіць сябе на тым, што вочы міжвольна зьліпаюцца, а голаў бясьсільна апушчаецца на ўслоньне. І вось, калі ён ужо быў гатовы адмовіцца ад змаганьня з спакусаю заснуць, ён раптам пачуў каля самага дому аглушальны гук сырэны. Гэта быў добра яму знаёмы гук. «Такі мяне выдаў усё-ж такі гэты Робэрт Усе, усе аднае пароды!..» — кальнула яго думка. Але разважаць было не на часе. Як спалоханы тыгра, ён усхапіўся з канапы і у незраўнянай імклівасьцяй пералез праз вакно і карнізам ураз дайшоў да адчыненага вакна іншае кватэры. Адным махам ног ён апынуўся ў пакоях, дзе тымчасам ня было ні душы. Лёс, здавалася, ішоў сам на спатканьне Бобу. «Магчыма тут і не заўважаць. Пашлі мне, Божа, ратунак ад гэтых нахабных паляўнічых — упяршыню ўжо за доўгія гады Боб прыгадаў словамі Ўсявышняга.

Ён меў намер перачакаць аблогу, закапаўшыся тут, як у бярлозе. Але лёс судзіў іначай. Праз колькі хвілінаў паліцэйскія стрэлы ўжо парушылі спакой і ў гэтай гасподзе. Раззлаваныя няўдачай, здэнэрваваныя паліцэйскія ўжо стралялі нат надагад па сьценах.

— Не страляйце! — раптам пачуўся глухі чалавечы голас. З расчыненае адзежнае шафы ў сьцяне выйшаў узлахмачаны чалавек з паднятымі да гары рукамі. Гэта была першая і апошняя ў жыцьці Боба няўдача ў ягоным доўгім змаганьні з ненавісным яму родам лапчывых.

У турме Боб доўга енчыў і прамаўляў гістэрычную лаяніну аб паліцэйскім быдлу. У міжчасе ён смакаваў успаміны аб пачутых сьпевакох.

— Каруза быў шэдэўрам, але Шаляпін перавысіў яго сілаю натуральнага голасу, — расказваў ён сябрам па турме.

Малыя Том і Джэні ніяк не маглі даравать, чаму да іх не прыходзіць добры дзядзя Боб. Сузан Уайт кажны раз, згадваючы часіны пад наведзенем Бобам наганам, казала:

— Але які-ж ён быў джэнтэльмэн! Вельмі і вельмі далікатны абыходлівы чалавек! — І ейныя вочы сьвяціліся пры гэтым нейкім таемным бляскам. Толькі адзін Робэрт ня любіў згадваць пра выпадак з Бобам.

**Канец**

# Парад Ляяльнасьці ў Нью Ёрку

30-га красавіка сёлета ў вапошнюю сыботу перад першамайскім камуністычным сьвятам адбыўся як і што-году ў Нью Ёрку Парад Ляяльнасьці. Гэта ўжо 21-шы парад ладзіць Арганізацыя Вэтэранаў Замежных Войнаў. Па найбольш эксклюзыўнай вуліцы Нью Ёрку — 5-ай Авэнідзе машыравалі тысячы ўдзельнікаў параду. Здавалася-б, што зь цягам часу можна-б было спадзявацца менш колькаснага ўдзелу ў парадзе, але рэчаіснасьць гаворыць іншае. Сёлета прыняло ўдзел ў Парадзе больш за 25 000 асоб у Нью-Ёрку, а ў Брукліне ў такім-жа парадзе ў той самы дзень 13 000. Гэта значна болей, як у мінулым годзе. Гледачоў было крыху менш, з прычыны халоднага надвор'я, ды таму, што радыё прадбачвала дождж (каля 100 000).

Беларуская група брала ўдзел ў парадзе ў Мангэтане. Беларусы рэпрэзэнтаваліся вельмі добра. Апранутыя пераважна ў сваю нацыянальную вопратку несьлі свае сьцягі, эмблемы, плякаты, выступалі адзінай беларускай групай.

Тут трэба сказаць, што зусім на часе была ініцыятыва Згуртаваньня Беларускае Моладзі, якая прыгатавала новыя пратэстацыйныя плякаты. Тут у свабоднай краіне беларуская моладзь дэманстравала супраць забойстваў і зьдзекаў над моладзяй у Казахстане, плякаты дэмаскавалі забойцаў беларускае моладзі (глядзі фотаздымкі).

Прыгожы новы плякат з усё тым самым актуальным патрабаваньнем свабоды несьлі сяброўкі Беларускага Жаночага Згуртаваньня. Вельмі прыгожа рэпрэзэнтаваўся сьцяг беларускае рэлігійнае моладзежавай арганізацыі з гэрбам Пагоні, сьцяг Вэтэранаў, амэрыканскія й беларускія нацыянальныя сьцягі.

Беларускую групу, якая складалася зь сяброў БАЗА, сяброў Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў, сяброваk і сяброў Згуртаваньня Беларускае Моладзі, сябр. Бел. Жаночага Згуртаваньня і іншых бел. арганізацыяў вёў Спадар Д. Клінцэвіч (старшыня „Акруговай Управы БАЗА).

Наймалодшая ўдзельніца параду Ларыска Курыла лічыла каля трох гадоў, але трэба было бачыць, зь якой павагаю яна машыравала.

За калёнай моладзі ішлі жанчыны таксама ў нацыянальнай вопратцы, за імі група сяброў розных беларускіх арганізацыяў. Разам з намі ішлі й Беларусы з Стамфарду і з Нью Браунсьвіку




**Новыя плякаты на сёлетнім Парадзе Ляяльнасьці: два першыя плякаты Згуртаваньня Беларускае Моладзі й трэйці — Беларускага Жаноцкага Згуртаваньня ў Нью Ёрку**

**Фота М. Казьлякоўскага**

На чале паходу несьлі сьцягі, далей плякаты з назовамі арганізацыяў. Вельмі добрае ўражаньне рабіла група моладзі, усе ўдзельнікі якое выступілі ў прыгожай нацыянальнай вопратцы. Разам з моладзьдзю машыравалі й дзеці.

Асобнай групай выступалі беларускія арганізацыі з Саўт Рывэру: Беларускі Кангрэсавы Камітэт, Саюз Беларуска-Амэрыканскае Моладзі. Яны занялі месца перад нашай калёнай, дарма, што ім было прызначана месца недзе йначай. Дык атрымалася так, што Беларусы стварылі адну беларускую вялікую групу. Вельмі было прыемна выступаць адзіным супольным фронтам паміж іншых нацыянальных групаў. І толькі на карысьць нашага вызвольнага змаганьня такія супольныя выступленьні.

І міжволі машыруючы ў такой вялікай «агромністай грамадзе» прыходзілі на думку праўдзівыя словы нашага прарока Янкі Купалы зь вершу «А хто там ідзе». Ішлі Беларусы і несьлі яны «крыўду сваю . . . на худых плячох, на ў крыві руках» і несьлі яе «на сьвет цэлы» . . .

Ці-ж не гаварылі плякаты аб тэй адвечнай крыўдзе нашай, аб зрабаванай свабодзе, ці-ж не сьцякалі крывёю закатаванае моладзі нашыя плякаты-пратэсты? І ці-ж не глядзелі на гэтыя нашыя плякаты тысячы й тысячы людзкіх прыязных вачэй? . .

Парад вялі выдатныя прадстаўнікі амэрыканскага грамадзтва, як губэрнатар ньюёрскага штату Н. Рокэфэлер, мэр гораду Нью Ёрку Р. Вагнэр, кардынал Ф. Спэльман, міністар школьніцтва й іншыя выдатныя й заслужаныя грамадзянс. Яны дайшлі да ганаровае трыбуны й занялі на ёй месцы, каб прыймаць парад.

Зь Беларусаў на трыбуне былі: Яго Прасьвяшчэнства Ўладыка Васіль, Айцец Хведар Данілюк, Прэзыдэнт Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Сп. М. Абрамчык, Генэрал Ф. Кушаль.

У газэце «Нью Ёрк Таймс» на другі дзень была зьмешчаная вялікая справаздача з прабегу параду і ў пералічэньні групаў, прыймаючых удзел, паміж пералічаных прафэсыянальных групаў і вайсковых з нацыянальных групаў былі названыя толькі Беларусы. Дык-жа, відаць, Беларусы сваім бадзёрым маладым (бо пераважала моладзь) выступленьнем зрабілі добрае даймо й былі заўважаныя шматлікімі рэпартэрамі й фатаграфамі.

А некалькі дзён пасьля параду з Галоўнае Кватэры Вэтэранаў Замежных Войнаў прыйшла на адрас Сп-ра Д. Клінцэвіча адумысловая падзяка Беларусам за такі шматлікі і эфэктоўны ўдзел беларускае групы.

На гэтым трэба было-б і закончыць справаздачу — але (вось ёсьць-жа такое сьціплае слова) просіцца адна дыгрэсыя, адна заўвага, якую магчыма і справакаваў адзін наш вельмі паважаны Беларус — вэтэран. Ён ня быў на парадзе і на маё прынагоднае запытаньне чаму? — адказаў: «Гэта ўжо перастала на мяне дзейнічаць, перастала імпанаваць — вось даўней ў 1950-51 гадох дык я яшчэ перажываў нейкую эмоцыю, калі машыраваў, а цяпер — не, я не хаджу».

Вельмі шкада, што некаторыя нашыя эмігранты так разважаюць, а тым больш былыя вайскоўцы.

Прымаць удзел у такіх дэманстрацыях абавязак кажнага Беларуса, гэта малы, вельмі малы наш уклад у наш супольны фронт вызвольнага змаганьня, і бяз эмоцыі, а толькі зь любасьці і ўдзячнасьці да свае Бацькаўшчыны-Беларусі мы павінны быць там, дзе нешта робіцца на яе і нашага паняволенага народу карысьць.

І напэўна не эмоцыяй кіраваўся, прыкладам, кардынал Спэльман, які машыраваў у парадзе, а хрысьціянскай любасьцяй да тых мільёнаў паняволеных камунізмам народаў, у тым ліку і нашага беларускага народу.

І ці— эмоцыі шукалі тыя 80-цігадовыя ўдзельнікі паходу (а былі і такія сярод беларускае групы), якія з трудам пасьпявалі машыраваць за моладзяй, але

**(Заканчэньне на 4-ай бачыне)**




**Група Беларускага Жаноцка га Згуртаваньня ў Нью Ёрку**

**Фота М. Казьлякоўскага**



**Група Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Нью Ёрку**

**Фота М. Казьлякоўскага**

*Ф. Кушаль*

# БІТВА ПАД ГРУНВАЛЬДАМ

Сёлета ўлетку прыпадаюць 550 ўгодкі бітвы пад Грунвальдам, якая адбылася 15-га ліпеня 1410 году. У гэтай біцьве злучаныя арміі Вялікага Княства Літоўскага пад камандаю вялікага князя Вітаўта й арміі польскай пад камандай караля Уладыслава Ягайлы 15-га ліпеня 1410 году разьбілі пад мясцовасьцяй Грунвальдам крыжацкую армію, вызваліўшы аж на 500 год Усходнюю Эўропу ад пагрозы нямецкае экспансіі. Дзеля таго, што ў згаданай біцьве нашыя прадзеды, якія складалі асноўнае жыхарства Вялікага Княства Літоўскага, адыйгралі ролю ці ня большую, чымся Палякі, да рэчы будзе прыгадаць з нагоды гэтых угодкаў беларускаму грамадзтву Грунвальдзкую бітву, як адну з выдатных падзеяў нашае слаўнае мінуласьці.

### Кароткія весткі аб Крыжацкім Ордэне

Крыжацкі Ордэн рыцараў-манахаў быў арганізаваны Немцамі ў 1189 годзе дзеля абароны Ерузалімскага каралеўства ад арабскага наступу. Калі, пасьля даўгога й цяжкога змаганьня, Ерузалімскае каралеўства было ўсё-ж апанаванае Арабамі, усе рыцарскія законы, што баранілі сьвятых мясьцінаў, у тым ліку й Крыжацкі Ордэн, поўная назва якога была «Тэўтонскі Ордэн імя Багародзіцы Ерузалімскай», згубілі сэнс свайго йснаваньня. У 1210 годзе вялікім містрам Тэўтонскага Ордэну стаўся Гэрман фон Зальца, выдатны арганізатар, палітык і дыплямат. Вось ён і зьвярнуў увагу на ўсходняе ўзьбярэжжа Балтыцкага мора, дзе жылі ўсьцяж яшчэ паганскія балтыцкія плямёны Прусы, Жамойць, Аўкштота ды інш. Атрымаўшы згоду тагачаснага Папы Рымскага на перасяленьне Тэўтонскага Ордэну ў Прускую зямлю й згоду Мазавецкага князя Канрада, які непасярэдня мяжаваўся з Прусамі, Тэўтонскі Ордэн, на чале зь вялікім містрам фон Зальца, прыбыў у 1229 годзе ў Хэлмшчызну на Памор і, вызначаную яму дзеля першага пасяленьня князем Канрадам.

Польскія ўдзельныя князі й біскупствы гасьцінна прынялі рыцараў-манахаў, якія баранілі Гасподняга Гробу ад няверных і далі ім усялякую дапамогу. Ордэн пачаў багацець і расьці, папаўняючы свае шэрагі рыцарствам, што прыбывала ў Хэлмншчыну зь іншых краінаў, а перадусім зь Нямеччыны. Неўзабаве Ордэн гэтак памацнеў, што пачаў наступ на Прусаў і, ня гледзячы на іхны супраціў, зваяваў прускія землі на працягу пяцідзесяцёх год. Прусы былі сілком ахрышчаныя, прычым хрысьціянства накідалася ім у нямецкай форме. Тыя-ж зь іх, што былі асабліва ўпорыстыя, вынішчаліся фізычна. Здабываныя Ордэнам год па годзе прускія прасторы каляніzаваліся сялянамі й мяшчанамі, прывожанымі зь Нямеччыны. Да сярэдзіны 14-га стогдзьдзя на прасторы Прусіі было ўжо 1 400 вёскаў, заселеных Немцамі й зьнемчанымі Прусамі, ды 93 гарады зь нямецкім мяшчанствам. Гэткім чынам, у Прусіі паўстала нямецкая дзяржава, якая кіравалася манахамі-рыцарамі, папулярна званымі «Крыжакамі» з тае прычыны, што яны апраналіся ў белыя плашчы з нашытымі на іх вялікімі чорнымі крыжамі. На сваю сталіцу Крыжакі збудавалі моцную цьвярдыню Марыенбург, пераназваную пасьлей Мальборкам.

Паводля свае нутранае арганізацыі, Крыжацкі Ордэн дзяліўся на тры групы. Першая — складалася з прадстаўнікоў арыстакратычных радоў, што зваліся «братамі-рыцарамі». Яны займалі камандныя становішчы ў войску й вышэйшыя пасады ў адміністрацыі Ордэну. Другую групу складалі «браты-сьвятары», якія выконвалі ў Ордэне сьвятарскія абавязкі. Да трэйцяе групы належылі «браты-службоўнікі», якія выконвалі ніжэйшыя функцыі ў войску й абслугоўвалі братоў-рыцараў. Усе браты, што належылі да згаданых трох групаў, былі манахамі й не маглі жаніцца. На чале Ордэну стаяў вялікі містр, які выбіраўся на ўсё жыцьцё генэральнай капітулай Ордэну й заслужанымі братамі-рыцарамі. Выбраны капітулай вялікі містр зацьвярджаўся Папам Рымскім і імпэратавам Сьв. Рымскае Імпэрыі. Заступнікам вялікага містра быў вялікі комтур. Вялікі містр быў галавою дзяржавы й галоўным камандуючым узброеных сілаў Ордэну. Пры вялікім містру быў цэлы штаб рыцараў, якія выконвалі тыя-ж дзяржаўныя функцыі, што выконваюцца пры кажным заходня-эўрапэйскім манарху. Паводля адміністрацыйнага падзелу, крыжацкая дзяржава дзялілася на акругі, якія называліся камтурыямі На чале камтурыяў стаялі комтуры, якія былі адміністрацыйнымі кіраўнікамі сваіх камтурыяў, а ў выпадку вайны — і камандзерамі войска гэтых камтурыяў.

Крыжацкае войска было найлепш арганізаваным і дысцыплінаваным войскам у ўсёй тагачаснай Эўропе.

Яшчэ перад перасяленьнем Крыжацкага Ордэну ў прускія землі, у Нямеччыне быў арганізаваны біскупам Альбэртам Ордэн манахаў-рыцараў, названых «Мечаносцамі», з мэтай распаўсюджваньня хрысьціянства на ўсходзе Эўропы. У 1202 годзе Мечаносцы высадзіліся на ўсходнім беразе Балтыцкага мора ў Лівоніі (сяньняшняя Лацьвія), заснавалі цьвярдыню Рыгу, як сваю выпадовую базу, і пачалі заваёўваць паганскія балцкія плямёны Ліваў, Кураў ды інш., наварачваючы іх у хрысьціянства. Падтрымоўваны нямецкімі дзейнікамі, Ордэн Мечаносцаў хутка зваяваў усходняе ўзьбярэжжа Балтыку да Фінскае затокі й пачаў нападаць на землі Наўгародзкае рэспублікі. Папулярна, Ордэн Мечаносцаў зваўся «Лівонскім», таму далей у гэтым артыкуле, я й буду называць яго Лівонскім Ордэнам.

Дзеля таго, што й Крыжацкі й Лівонскі Ордэны былі, паводля свайго складу, чыста нямецкія й палітыка іхная была аднолькава пранямецкая, дык у інтарэсах гэтае палітыкі было задзіночаньне згаданых Ордэнаў у вадну дзяржаву. Адылі, на перашкодзе гэтаму стаяла Вялікае Княства Літоўскае, заходнія землі якога сягалі Балтыцкага мора й убівалі клін між уладаньнямі двух Ордэнаў. Таму, Крыжакі й займелі сваёю мэтаю зламаць магутнасьць Вялікага Княства Літоўскага дзеля зьліцьця ў вадно гаспадарства зь Лівонцамі.

Напады Крыжакоў на Вялікае Княства Літоўскае пачаліся яшчэ за часоў княжаньня ў Ліцьве Мяндоўга. Гэтак званыя «місыйныя рэйды» Крыжакоў, урываліся ў межы Вялікага Княства Літоўскага, нібы дзеля таго, каб наварачваць у хрысьціянства паганскае жыхарства Жамойці й Аўкштоты, і сягалі ці раз Полацку й Віцебску, дзе жыхарства ўжо было хрысьціянскае, і проста рабавалі й нішчылі яго. Вялікія літоўскія князі змагаліся з гэткімі крыжацкімі «рэйзамі» і ня толькі нішчылі іх, але часта разьбівалі цэлыя крыжацкія арміі. Прыкладам, у 1320 годзе вялікі князь Гэдымін, на чале арміі Вялікага Княства Літоўскага, цалкам зьнішчыў вялікую крыжацкую армію паміж вазёрамі Займіла й Акмяны, прычым крыжацкі містр Гэнрых дэ Плоцк паў на полі бітвы. Гэтая параза крыжацкае арміі, блізу роўная паразе пад Грунвальдам, была дакананая сіламі аднаго Вялікага Княства Літоўскага.

Аднак, дзякуючы спрытнай, манлівай прапагандзе Крыжакоў з Заходняй Эўропы да іх усьцяж прыбывалі новыя рыцары — «распаўсюджваць хрысьціянства сярод паганаў», як навонкі называлі сваю брутальную заваявальную акцыю Крыжакі, і крыжацкая армія кажны раз неўзабаве папаўнялася й адраджалася нанова.

**Далей будзе**

